# Паляунічы беларусі

Орган беларускага прамыслова-коопэрацыйнага саюзу паляў-нічых

1929
№ 9
Верасень

Год выданьня
III



У цёплыя краі.

# Паляўнічы Беларусі

№ 9 верасень 1929

ШТОМЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН БЕЛКАХОТСАЮЗУ
ГОД ВЫДАНЬНЯ 3-ЦІ

ПАДПІСНАЯ ПЛАТА:

| | |
|---|---|
| На 1 год . . | 2 р. |
| На 6 м-цаў . . | 1 р. 20 к. |
| На 3 м-цы . . | 70 к. |

АБВЕСТКІ:

| | |
|---|---|
| Старонка перад тэкстам | 150 р. |
| На апошн. стар. вокл. | 100 р. |
| Ззаду тэксту . . . | 70 р. |
| Аб прапажы сабак . . | 1 р. |
| Аб прадажы сабак . . | 3 р. |

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

*Менск, Савецкая, № 71. Тэлефон—405.*


## ЗЬМЕСТ



# ЗАГАТОЎЧАЯ КАМПАНІЯ ПУШНІНЫ НАБЛІЖАЕЦЦА.



У ДРУГОЙ палове кастрычніка месяца пачынаецца пушна-загатоўчая кампанія. Загатавіцелямі на пушна-загатоўчым рынку ў гэтым годзе засталіся тыя самыя арганізацыі, што ў мінулым годзе: Дзяржгандбел, Паляўнічая каапэрацыя, Белсельсаюз і Белкапсаюз, прычым на нашу паляўнічую каапэрацыю ўскладзена задача загатовіць 30% з усіх пушных загатовак. Упаўне зразумела, чаму на нашу каапэрацыю перанесен цэнтр цяжару выкананьня пляну загатовак. Дзейнасьць паляўнічай каапэрацыі з кожным годам усё пашыраецца. Задавальненьне запатрабаваньняў паляўнічых мас агнявой і іншымі прыладамі паляваньня паляпшаецца, а разам з тым, дзякуючы паляўнічае каапэрацыі, органамі Ураду на мясцох прымаюцца самыя рашучыя мерапрыемствы па барацьбе з прыватным гандлем агнябоепрыладамі і загатоўкай прыватнікам пушніны, што дае магчымасьць лепш ахапіць паляўнічую масу нашай каапэрацыяй.

Але ўсё неабходнае, каб канчаткова пазбавіцца ад уплыву прыватніка мы яшчэ не зрабілі. Ня мала выпадкаў, калі паляўнічыя па сваёй маласьвядомасьці і ўплыву кулацтва „из-под полы“ прадаюць сваю пушніну прыватніку, дзе вельмі часта прыватнік дае за пушніну шрот, порах і інш. Чаму мы маем такое становішча? У якіх гэта мясцох? Продаж паляўнічымі пушніны прыватніку ці абмен яе з прыватнікам на агнябоепрылады сьведчыць аб тым, што мы яшчэ не задавальняем культурныя патрэбы паляўнічага, што мы не разгарнулі як належыць культурна - выхаваўчую працу, што мы на мясцох мала яшчэ звярачваем увагі на барацьбу з прыватнікам, а галоўнае, што некаторыя нашы арганізацыі кепска забясьпечваюць паляўнічага прыладамі паляваньня.

Ня мала фактаў, калі ў самы разгар паляваньня ня было з чым паляваць. У некаторых раёнах у сэзон адчыненьня паляваньня на птушку ў гэтым годзе ня было шроту, пістонаў і пораху ў той час, як у акруговым таварыстве гэтых тавараў было колькі хочаш.

Праз тыдзень пасьля адчыненьня паляваньня на качак у гэтым годзе нам з Талькі (Пух. раён, Мен. акр.) паведамляюць:

— Няма чым паляваць. Старшыня ячэйкі езьдзіць у Пухавіцкае райбюро за шротам, а там яго таксама няма.

Такое становішча мы маем у той час, калі ў Менскім акруговым таварыстве ёсьць шмат шроту і пораху і што, нават, Менскае акруговае таварыства ня мае месца, дзе гэта хаваць.

Толькі нашае няўменьне і падчас сьвядомае нежаданьне абслугоўваць і задавальняць запатрабаваньні паляўнічых, прыводзіць да таго, што нават і каапэраваны паляўнічы шукае „месца прытулку“ ў прыватніка. Якія-б там ні былі суровыя законы Ураду па барацьбе з прыватнікам на пушным рынку, як бы мы самі ні былі энэргічны ў барацьбе з прыватнікам, прыватнік і ў гэтым годзе будзе рабіць спробу пралезьці на пушны рынак, будзе рабіць спробу з намі „конкурировать“.

Таму мы павінны зараз-жа за гэтыя два-тры тыдні, што засталіся да пачатку пушных загатовак ужыць усе належныя ад нас мерапрыемствы, каб каапэраваны намі паляўнічы не папаў пад уплыў прыватніка, пад уплыў кулацтва.

**ПАЛЯЎНІЧЫ! ЗДАВАЙ СВАЮ ПУШНІНУ Ў ПАЛЯЎНІЧУЮ КААПЭРАЦЫЮ.**

Для гэтага неабходна зараз-жа разгарнуць растлумачальную працу сярод паляўнічых шляхам сходаў па раёнах і ячэйках, шляхам нарад і гутарак, а галоўнае—гэта праверка сваіх плянаў забесьпячэньня паляўнічых агнябоепрыладамі, каб у часе паляваньня на зьвера ня было ніякіх перашкод з забесьпячэньнем паляўнічага.

Трэба растлумачыць паляўнічаму выгаду, якую ён сам і дзяржава мае пры здачы пушніны каапэрацыі і шкоду, якую ён прыносіць сабе і дзяржаве пры здачы пушніны прыватніку.

Вось толькі 29 чэрвеня гэтага году Народны Камісарыят гандлю пастанавіў:

— Для сваечасовага абмежаваньня ўноў адчыненых заказьнікаў і ўзмацненьня аховы іх адпусьціць саюзу паляўнічых з прыбыткаў па рэалізацыі пушніны за 1928-29 год 15.000 руб.

Як відаць, што забіраючы пушніну для экспарту ад каапэрацыйных арганізацый Урад разам з загатоўкамі пушніны клапоціцца і аб тым, каб замест адстрэленага зьвера зноў аднавіць нашу паляўнічую фауну.

А прыватнік якую карысьць прыносіць паляўнічаму і дзяржаве? Прыватнік, акрамя таго, што ашуквае паляўнічага, набыўшы ў яго першагатунковую скурку за другі гатунак і абменьваючы пушніну на агнябоепрылады, шкодзіць справе ўзмацненьня нашай паляўнічай каапэрацыі, шкодзіць нашаму будаўніцтву, а ў даным выпадку перашкаджае аднаўленьню разбуранае паляўнічае гаспадаркі.

Аб гэтым павінны заўсёды, памятаць усе паляўнічыя. Месцам збыцьця і набыцьця для паляўнічага—павінна быць заўсёды паляўнічая каапэрацыя.

У пэрыяд абвастрэньня клясавае барацьбы і асабліва на вёсцы гандляр, кулак, „бывшие люди" і асабліва ізаляваны ад нашае паляўнічае каапэрацыі чужы нам элемэнт бязумоўна будуць рабіць спробы, каб перацягнуць паляўнічага здатчыка пушніны на свой бок. Гэта павінен улічыць кожны паляўнічы, кожнае бюро калектыву і ячэйка.

Шаптунам—ворагам працоўных, якія будуць перашкаджаць нам у працы, мы павінны абвясьціць бязьлітасную барацьбу, рэагаваўшы сваечасова на кожныя паасобныя спробы перашкаджаць нам у рабоце па пушных загатоўках, перашкаджаць нам будаваць сацыялістычную гаспадарку.

Шляхам сацыялістычнага спаборніцтва аднаго паляўнічага з другім, ячэйкі з ячэйкай, калектыва з калектывам, таварыства з таварыствам возьмемся за пушную загатоўку і выканаем ускладзеныя на нашу паляўнічую каапэрацыю задачы.

Наш лёзунг — **ніводнай скуркі, ніводнага хваста прыватніку!**

**Паляўнічы! здавай пушніну ў сваю паляўнічую каапэрацыю.**

# БЕДНАТА КААПЭРУЕЦЦА ВЕЛЬМІ СЛАБА.

ВА ўмовах абвастронай клясавай барацьбы як у горадзе, так і на вёсцы, ва ўмовах узмоцненага наступленьня сацыялістычнага сэктару на капіталістычны, пытаньне каапэраваньня беднаты зьяўляецца адным з асноўных у штодзённай практычнай працы нашай сыстэмы.

На вялікі жаль, гэтага яшчэ ня ўлічылі цэлы рад нашых арганізацый і працягваюць падчас сьвядома ня выконваць дырэктывы партыі на гэтым важным вучастку працы.

Дырэктывы „Белкохотсоюза" па пытаньню аб каапэраваньні беднаты (а іх было ня мала) не спаткалі дастатковага падтрыманьня на мясцох. З *Бабруйску, Мазыра* і іншых месц нам паведамляюць:

—„Праца па каапэраваньню беднаты разгортваецца слаба".

У некаторых мясцох за лік фонду каапэраваньня беднаты каапэруюць міліцыянэраў і г. д. Есьць і такія выпадкі, калі ў выніку апошняй перавыбарчай кампаніі ў таварыствах, дзе адноўлен кіруючы склад *(Бабруйск)*, новыя праўленцы нават ня ведаюць і пра палажэньне аб каапэраваньні беднаты, а таму „ўстрымліваюцца пакуль што ад каапэраваньня".

У *Халопеніцкім* раёне (Менскай акругі) была спроба за сродкі каапэраваньня беднаты купіць памяшканьне для райбюро. У такім вялікім раёне, як *Бярэзінскі* (Мен. акр.) за ўвесь час каапэраваны толькі адзін бядняк.

Аб чым гэта ўсё сьведчыць? Гэта сьведчыць аб неразуменьні важнасьці разгортваньня гэтае працы, а ў некаторых мясцох ёсьць сьвядомае нежаданьне выканаць дырэктыву партыі і Ураду, што зьяўляецца ні чым іншым, як пакрыўленьнем клясавае лініі ў нашай практычнай рабоце.

Гаспадарчы год у нашай сыстэме ў гэтым годзе пачынаецца 1-га кастрычніка. Таму да гэтага тэрміну мы павінны аформіць перадачу 15 проц. з прыбытку 1928-29 г. у фонд каапэраваньня беднаты і прыняць усе меры да выпраўленьня дапушчаных памылак на гэтым вучастку, бо так далей весьці працу па каапэраваньню беднаты ніяк нельга.

Разам з гэтым неабходна, каб ЦП „Белкохотсоюза", як мага хутчэй абгаварыла пытаньне аб павялічэньні фонду каапэраваньня беднаты. 15 проц. з прыбытку складаюць малую суму сродкаў. За мінулы 1928-29 апэрацыйны год гэты процант даў менш за 2000 руб. Бязумоўна, што з такімі сродкамі зрабіць нешта рэальнае вельмі цяжка. А між тым, лік каапэраваньня беднаты, згодна прадстаўленага „Белкохотсоюзом" у ЭКАНА БССР пляну, павінен у 1930 годзе раўняцца такой суме, як 847 чалавек і калі сюды яшчэ дадаць невыкананьне пляну 1928-29 году, тады ўпаўне зразумела будзе, што неабходна зараз-жа мабілізаваць усе сілы і сродкі на правядзеньне гэтае працы.

„Белкохотсоюз" павінен абгаварыць пытаньне аб пераводзе ў фонд каапэраваньня беднаты астачы арганізацыйных выдаткаў, якая застаецца па сканчэньні гаспадарчага году. Гэта значна павялічыць фонд.

Ячэйкі, бюро райкалектываў і акруговыя праўленьні павінны яшчэ і яшчэ раз праверыць, што імі зроблена, каб выканаць дырэктывы па каапэраваньню беднаты.

Замест вычышчаных з шэрагаў паляўнічай каапэрацыі „былых" людзей прыцягнем батракоў і беднякоў.

Зробім рашучы перелом у гэтай рабоце. Выканаем дырэктывы партыі і Ураду.




Сьмірноў.

## Да пераводу раённых каляктываў на гаспадарчы разрахунак.

Гаспадарчыя і арганізацыйная фукцыі паляўнічай каапэрацыі, загатоўкі пушніны і другараднай сыравіны павялічыліся, з прычыны чаго ўзрос попыт паляўнічае масы на прылады паляваньня. Адсюль выцякае неабходнасьць павялічэньня гандлёвых зваротаў паляўнічае каапэрацыі, ды палепшаньня працы па разьвіцьцю паляўнічай гаспадаркі ды падняцьцю культурнага ўзроўню паляўнічых.

Усё гэта патрабуе ўгвараньня нізавога апарату паляўнічае каапэрацыі ў раёне, які-б узмоцніў кіраўніцтва ўсёй дзейнасьцю раённай паляўнічай арганізацыі. Гэтае ўзмацненьне кіраўніцтва магчыма толькі пры ўмовах пашырэньня правоў ды абавязкаў раённых каляктываў.

Выходзячы з гэтага, 8 сход упаўнаважаных паляўнічае каапэрацыі БССР пастанавіў „пачаць пераводзіць раённыя каляктывы паляўнічых на гаспадарчы разрахунак і арганізаваць у раёнах таварыствы паляўнічых і зьвераводаў, якія па акругах аб'яднаюцца ў акруговыя таварыствы паляўнічых".

Пакуль што ў нас няма ніякага вопыту ў гэтай справе, пагэтаму тут патрэбна вялікая асьцярога, каб не зрабіць памылак. Ц. П. „Белкохотсоюза" зараз мяркуе рэарганізаваць ня ўсе райкаляктывы, а толькі найбольш буйныя, якія могуць пашырыць гандлёвы зварот. Такія каляктывы патрэбна зараз-жа перавесьці на палажэньне таварыстваў. У гэтых раённых таварыствах для сталай працы неабходна мець ня менш аднаго, аслабанёнага ад іншай працы, працаўніка з акладам да 60 руб. у месяц а калі будзе патрэбна, дык і ад яго рахункавода-справавода з акладам 30—40 руб. у месяц.

З пераводам на новае палажэньне, працу па абслугоўваньню членаў раённага таварыства, якую дагэтуль вядуць акруговыя праўленьні, павінен весьці прэзыдыум праўленьня, а за акруговым праўленьнем застаюцца функцыі кіраваньня і інструктаваньня.

Вышэй я казаў, што ў гэтай справе ў нас яшчэ няма вопыту, таму акруговыя праўленьні павінны ўсебакова абгаварыць пытаньне, якія з раёнаў магчыма перавесьці на гаспадарчы разрахунак і вырашыць усе дэталі гэтага пераводу. Добрая праца раённага таварыства магчыма толькі пры ўмове падвядзеньня пад яе эканамічнае базы.

**Ад рэдакцыі:** Ня маючы ў гэтай рабоце ніякага вопыту, мы лічым неабходным абгаварыць гэта пытаньне на старонках часопісу; чакаем матар'ялу з мейсц.

В. Шкірманкоў.

## За спыненьне паляваньня на качак з-пад ганчакоў.

Шмат хто з паляўнічых палюе на качак з ганчаком, пры гэтым такія паляўнічыя вельмі хваляць гэтае паляваньне.—„Ганчак куды карысьней у нашых зарасьніках, з якіх толькі здаровы ганчак можа вытурыць качку. Лягавы, як больш фізычна далікатны, з гэтай работай ня справіцца"—гавораць гэтыя паляўнічыя.

Яно то так. Бывае, што такі паляўнічы ў адзін дзень зьнішча некалькі вывадкаў яшчэ нялётаючых качак. Але-ж трэба гэтым паляўнічым ведаць, што яны самі сабе робяць кепска, бо ганчак стойкі ня робе, а хапае птушку і давя, ды давя так, што не заўсёды бача гэта гаспадар сабакі, чым, падчас, зьнішчае ўсё жывое.

Але бываюць выпадкі, калі ганчак нападае на сьлед зайца ды яшчэ маладога, пачынае яго ганяць, які нярэдка і застаецца дабычай сабакі. Наогул, ганчакі, якіх бяруць на качак паляўнічыя, прыносяць шмат страт паляўнічай гаспадарцы і „Белкохотсоюз" павінен дабіцца выданьня закону аб забароне паляваньня на качак з ганчакамі, а раённыя каляктывы паляўнічых папуліразаваць гэты закон.

Гатоўкін.

## Заказьнік на паперы.

У № 7 часопісі „Паляўнічы Беларусі" была зьмешчана заметка „Заказьнік на паперы". Аўтар гэтае заметкі даводзіць, што адчынены заказьнік у Сафіеўскай дачы, Дзевінскага лясьніцтва, Аршанскай акругі, існуе толькі на паперы, бо гэта дача не адпавядае па сваёй расьліне мэтам заказьніку і раіць перанесьці заказьнік у вурочышча Івашня. Я, як жыхар той мясцовасьці і паляўнічы, падтрымліваю думку аўтара паказанай заметкі, бо вурочышча Івашня адпавядае ўсім патрабаваньням заказьніку.

**В. Шкірманкоў.**

## Аб ураджаі балотнай і вадаплаваючай дзічы.

*(Горацкі раён).*

Да асаблівасьцяй паляваньня на качак у гэтым годзе трэба аднесьці значнае павялічэньне крыжняў над чыркамі, чаго ў іншыя гады не назіралася.

Высокі ровень вады ў вялікіх дый малых рэках затрымаўся чуць не да другой паловы ліпеня, у выніку чаго ўлюбёныя месцы гнездаваньня качак былі пад вадой. Качкі, асабліва чыркі, амаль цалкам перабраліся гнездавацца на палявыя балотцы, якія, з наступленьнем цяплыні, хутка павысыхалі.

Толькі некаторыя з іх мелі вывадкі, большасьць-жа гнёздаў была апустошана бадзячымі сабакамі, пастушкамі ды наогул аматарамі птушыных яек; а іх у гэтыя гады, дзякуючы папусьціцельству мясцовых органаў разьвялося шмат, якія, ведаючы ўсіх гэтых двуногіх драпежнікаў, ніводнага не прыцягнулі да адказнасьці.

У выніку гэтага ў нашым раёне не назіралася чыркоў, лётаючых статкамі, якія вельмі любяць зьбірацца ў вялікія стаі па некалькі вывадкаў з другой паловы жніўня. „Чырок—рэдкасьць у гэтым годзе“— гавораць паляўнічыя нашага раёну.

Крыжні ў гэтым годзе захавалі свае гнёзды ўдала. Яны не ляцелі гнездавацца ў палявыя лужыны, а гнездаваліся ў зарасьніках, у чаротах, лазе, у тых мясцох, якія былі заліты вадой ды куды не дабрацца чалавеку. Наогул крыжні ўмеюць лепш прыспасабляцца і выходзіць з цяжкага для іх становішча, пагэтаму ў нашым раёне прырост крыжняў нармальны.

Бякас у гэтым годзе, па маёй думцы і па думцы іншых паляўнічых у нашым раёне, не гнездаваўся. Дзе летась іх было, як вераб'ёў, у гэтым годзе амаль што там іх не сустракалася.

---

**Бабчонак.**

## Аб сродках для сельскіх паляўнічых ячэек.

*(У парадку абгаварэньня).*

У большасьці акруг арганізаваны сельскія паляўнічыя ячэйкі, якія ўжо працуюць, ды працуюць ня дрэнна. Але, калі каснуцца хаця-б пісьмовай сувязі ячэйкі з калятывам, то ў ячэйцы няма пяра, паперы ды маркі паслаць ліст.

Словам, для сельячэйкі ўсё-ж неабходны нейкія маленькія сродкі, а іх няма, бо раённыя калятывы ці таварыствы ў большасьці нічога сельячэйкам не даюць, а калі дзе і даюць, дык кустарным парадкам.

Трэба ўвесьці якую-небудзь сыстэму ў справе сысканьня сродкаў для ячэек. Па мойму, можна вылучыць якую-небудзь долю з арганізацыйных збораў, ды сысканьне гэтых збораў перадаць ячэйкам на мясцох пад квіткі ў іх карысьць на канцылярскія і культасьветныя патрэбы.

---

### Ад чаго бываюць няўдачлівымі аблавы.

Аблаву на ваўкоў трэба рабіць умеючы ды асьцярожна, бо воўк, якому ўдалося выйсьці з абкладу аблавы жывому, другі раз пападае ў абклад рэдка ды часта выводзіць і іншых. Але некаторыя нашы арганізатары аблаў ня лічацца з гэтым правілам ды часта псуюць аблаву.

Так, 28 ліпеня недалёка ад Смалакуранага заводу ў Добрамысьлянскім сельсавеце, Лёзьнянскага раёну, у заказьніку „Белкохотсоюза“ была назначана еблава на ваўкоў.

На аблаву сабралася каля 200 чалавек паляўнічых з ўсяго раёну, якіх даволі для пасьпяховага правядзеньня аблавы.

Але наш вялікі знаток — арганізатар аблавы — Барташ даказваў старым радавым паляўнічым, што аблаву трэба пачаць пасьля поўдня, у той час, калі яе хацелі пачаць за гадзін некалькі да поўдня, бо з логаваў выйдуць старыя ды пераяркі.

Паслухалі Барташа. І што-ж? На логавах ні старых ваўкоў, ні пераяркаў не аказалася, а забілі толькі 4 маладых па пуду вагой, у той час, калі падвывалы спадзяваліся застаць больш 2 дарослых.

Зараз маціерыя з пераяркамі шчыра падзякуюць іх дабразею — Барташу, а разам з імі і акружаючаму сялянству. **Е. К.**

**Ад рэдакцыі.** Знатакамі воўчых аблаў даказана, што аблаву па чорнатропу трэба пачынаць а 9—10 гадзіне раніцы, бо старыя ваўкі каля поўдня ўходзяць на жыры.



**Нечаканасьць.**




**Б. С.**

## Витебские окружные полевые испытания легавых.

24—25 августа состоялись витебские окружные полевые испытания легавых собак. Испытания проводились в заказнике „Путятской мох", в 14 верстах от Витебска. Дичи было вполне достаточно: преимущественно белая куропатка и тетерев. Судили А. А. Корш, Н. К. Святогор и Н. М. Усов.

Представлено было 11 собак, из коих получили дипломы только 5. В класс первопольных, из двух участвовавших собак, 1-ое место заняла „Леди" Н. Г. Амосенко кофейно-пегая сука, пойнтер, получившая диплом III степени, почетный диплом Белкохотсоюза и приз 10 руб. при общем балле 60. Вторая первопольная „Альма" Цветкова—сука ирландский сеттер осталась без расценки. В классе многопольных первое место занял „Марс" И. И. Лебедева, кобель, ирландский сеттер, получивший диплом III степени, почетный диплом Белкохотсоюза и приз 16 руб. при общем балле 73; второе место заняла „Рури" Б. И. Сушкевича, сука, пойнтер, красно-пегий, получившая диплом III степени, почетный диплом Белкохотсоюза и приз 10 руб. при общем балле 71; третье место заняла „Микро" — С. С. Макаревича (г. Невель), сука, пойнтер, желтопегий, получившая диплом III степени и приз 5 руб. при общем балле 70; четвертое место заняла „Белла"— В. Г. Безушко, сука, пойнтер, черно-крапчатый, получившая диплом III степени и приз 4 руб., при общем балле 66.

Из выведенных егерем Н. А. Лебедевым московских собак сеттеров-гордонов: „Найд"—П. М. Энгельгардт, „Брайт"—П. М. Энгельгардт, „Лета" — Е. Р. Ульрихт и витебской „Азы" — Я. М. Брина не прошла на диплом ни одна собака. Выведенный ирландский сеттер „Мен"—В. В. Васютовича, тоже остался без расценки.

По сравнению с прошлым годом собак было выведено меньше, но уровень их сохранился прежний— ни одного диплома II и I-ой степени и лишь две собаки „Марс" и „Рури" получили за чутье по 17 баллов, остальные по 16 баллов.

Все это говорит за то, что собак „охотничьих" у нас достаточно, но выдающихся, с высоким чутьем, нет ни одной. Отрадно лишь то, что все награжденные собаки дрессировались и натаскивались самими владельцами, а прошедшие на 1-е места „Леди" и „Марс" принадлежат охотникам-крестьянам. Это свидетельствует о том, что легавая собака начинает проникать в деревню и завоевывает там свое законное место и рядовой охотник-крестьянин вполне усвоил все методы дрессировки и натаски легавой собаки и требования, пред'являемые на полевых испытаниях. Из этого видно, что работа секции кровного собаководства Витебского товарищества не прошла бесследно и уже дает результаты. Очень жаль, что охотники из других округов Белоруссии и РСФСР, как, например, Смоленские, не приехали к нам поделиться своими достижениями в собаководстве.

Теперь очередной задачей товарищества является успешное проведение районных испытаний гончих собак. К проведению в жизнь этих мероприятий уже приступлено, а результаты покажет будущее. Если легавая собака только начинает проникать в широкие охотничьи массы, то гончая собака уже давно заняла там свое законное место и является наиболее распространенной и главной помощницей охотника.

## Ганчакі ў загоне.

Прайшло лета. Ужо жаўцее ды асыпаецца лісьце. Скора восень, а там не за гарамі і зіма. Праз месяц—паўтара на першым сьняжку пакладзе ўзорыстыя сьляды зайчык і добры ганчак заяхкае ў лесе, ганяючы касавокага ці ліса.

Але заяхкае добры ганчак, а каб зрабіць яго добрым, трэба шмат працы пакласьці на гэта, шмат пахадзіць паляўнічаму па расістаму полю на зорцы з ім.

Ня так глядзіць на гэта праўленьне „Белкохотсоюза".—„Сабачы пал да зьвера сам прыдзе сабаку, навошта траціць час для нагонкі",—думаюць некаторыя праўленцы ці проста ня сур'ёзна адносяцца да гэтае справы.

І сядзяць белкахотсаюзаўскія ганчакі ў клетках, псуюць капэрацыйныя крупы, ды паветра псуюць гарадзкое. Сядзяць, увесь год сядзяць пад замком. Сустрэў я надоечы егера-Егерова з гадавальніка „Белкохотсоюза" ды і пытаюся:—„Ну, як—кажу— „наганьваеш сваіх ганчакоў, паказваеш ім зайца, лісіцу"?—„А як-жа, наганьваю... палкай іх у гадавальніку ды кукіш ім паказваю?"—гаворыць егер-Егероў —„Ашалеў я ці што!—І так шмат працы". А сабакі аглушаюць прыгарад сваім браханьнем, выюць, рвуцца на волю паганяць зайца.

Не адзін ужо раз адзначалася на старонках нашае часопісі, што сабакі гадавальніка заляжаліся. На VIII Сходзе Ўпаўнаважаных паляўнічае каапэрацыі таксама гаварылася, каб іх наганьваць ня толькі ўвосень, пры адчыненьні паляваньня па зьверу, але і ўсё лета. Праўленьне „Белкохотсоюза" ўвесь год заклапочана адводам месца для нагонкі, ды ніяк ня можа вырашыць гэтае справы, а сабакі і па гэты час сядзяць узаперці.

Трэба праўленьню „Белкохотсоюза" нешта такое зрабіць, каб сабакі не залежваліся ды ня трацілі сваіх высокапародных якасьцяй. Трэба даць некаму наганяй.

**Цэлеш.**






В. Е. Маркевич.

# НОРМАЛЬНЫЕ СНАРЯД И ЗАРЯД ДРОБОВИКА.

СНАРЯДОМ для охотничьего дробовика называется необходимое на один выстрел количество дроби или картечи, или же пуля. Заряд есть то количество пороха, которое необходимо для одного выстрела. Заряд служит для метания снаряда. Снаряд—для поражения цели.

Нормальный снаряд для обыкновенной двухстволки охотничьего типа должен весить $^1/_{100}$ веса руж я. Ружье, например, весит 3 кг., т.-е. 3000 грамм, снаряд для него будет весом в 30 грамм. Вес ружья определяют без ремня.

В нормально построенном прочном ружье означенный снаряд можно увеличить на $^1/_{10}$, это составит 3 грамма, всего будет 33 гр. Все современные ружья строятся с расчетом прочности на постоянную работу подобными снарядами. Более тяжелый снаряд более разрушительно действует на оружие. Это относится как к казнозарядным, так и к шомпольным ружьям. Старое охотничье правило, что основной снаряд дроби должен весить столько золотников, сколько фунтов весит ружье, приблизительно верное.

Другое правило, которое по недоразумению иногда упоминают некоторые оружейные авторитеты, что дробовой снаряд должен весить столько же, сколько весит круглая калиберная пуля, является неверным и часто совсем не подходит для охотничьих дробовиков. Для примера возьмем два ружья 12 калибра: одно весом 2650 гр. ($6^5/_8$ ф), другое в 370 гр. ($9^1/_8$ ф). Если брать снаряд по весу круглой пули, тогда для каждого из этих ружей нужно взять дроби по 37 гр. (столько весит круглая пуля). Такой снаряд для первого ружья окажется непосильным и даст сильнейшую отдачу, для второго ружья будет маловат. Ведь для первого ружья нужен снаряд весом от 26,50 до 29,15 гр., для второго ружья—от 36,50 до 40,15 гр.

Тут ясно, что вычисляя снаряд по весу ружья т.-е. по его массивности и прочности, дадим более подходящий снарад, нежели по весу круглой пули, неимеющей никакого отношения к прочности и весу современного дробовика. Нынешние дробовики бывают сконструированы для снаряда того или иного веса независимо от калибра. Я имею в виду наиболее распространенные калибры: 12, 16 и 20 и, конечно, нормально построенные ружья, у которых стволы весят обыкновенно около половины веса всего ружья.

Итак, мы видим, что калибр ружья при определении для него снаряда играет очень малую роль Главное—мощность ружья и прочность стволов, а эти качества в нормально построенном ружье определяются весом ружья.

В тяжелых казнозарядных ружьях уменьшенного калибра, чтобы усиленные снаряды помещались в патронах, должна быть удлиненная гильза. В шомпольных ружьях подобное неудобство не ощущается.

При нормальном снаряде всегда легче подобрать такой пороховой заряд, который даст максимальный не только по резкости, но и по кучности бой.

Чем меньше калибр ружья, так при одинаковом по весу снаряде, меньше требуется на заряд пороха для получения той же скорости, что и в большем калибре.

Заряд черного пороха средней силы должен быть в таком отношении к весу снаряда: если для 12 калибра заряд в 5½ раз легче веса дроби, тогда для 16 калибра он должен быть в 6 раз, а для 20-го калибра в $6^1/_2$ раз легче дроби.

Если мы возьмем, например, три ружья разного калибра: 12, 16, 20-го, но все одного веса, по 3200 грамм, следовательно, снаряд для них одинаковый: по 32 гр. дроби, но пороховые заряды будут:

для ружья 12 калибра $(32:5^1/_2)=5^8/_{10}$ грамма,
„ „ 16 „ $(32:6)=5^3/_{10}$ „
„ „ 20 „ $(22:6^1/_2)=4^9/_{10}$ „

Отсюда понятно, что если охотник кладет в двадцатку такой же относительный пороховой заряд, как и в 12 или 16 калибр, тогда у него получится усиленная резкость боя.

Упомянутые заряды являются средними по силе. Их можно уменьшат и увеличивать на 5—10 проц.

Наилучший заряд и снаряд для каждого ружья определяется пристрелкой. Ниже помещена табл. зарядов и снарядов для ружей разного калибра и различного веса. Эти заряды и снаряды могут служить как ориентировочные при пристрелке ружья.

| Калибр двухстволки | Вес ружья в граммах | Снаряд дроби | | Заряд черного пороха средней силы | Примечание |
|---|---|---|---|---|---|
| | | От | До | | |
| 24 | До 3000 | 21 | 30 | 3 —4.3 | Вес зарядов и снарядов показан в граммах. Заряды черного пороха показаны от—до. |
| „ | Тяжелее 3000 | 27 | 32 | 3,8—4,5 | |
| 20 | До 3000 | 25,6 | 31,5 | 3,9—4,8 | |
| „ | Тяжелее 3000 | 30 | 33 | 4,6—5 | |
| 16 | 2800—3000 | 28 | 33 | 4,6—5,5 | |
| „ | Тяжелее 3000 | 30 | 34 | 5—5,6 | |
| 12 | До 2900 | 29 | 31,9 | 5,3—5,8 | |
| „ | 3000—3400 | 30 | 37,4 | 5,5—6,8 | |
| „ | 3600 | 36 | 39,6 | 6,5—7,2 | |
| 10 | 4000 | 40 | 44 | 7.3—8 | |
| „ | 4400 | 44 | 48,4 | 8—8,8 | |

Л. Холмский.

# О „птичьих“ винтовках.

*(По поводу ст. „Птичьи“ винтовки кал. 25—20 и 32—20" В. Я. Генерозова, см. № 4 „П. Б.“).*

УВАЖАЕМЫЙ автор, т. Генерозов, совершенно верно проповедует необходимость более широкого применения охотничьей винтовки для стрельбы птицы и мелкого зверя в тех случаях, когда они недосягаемы для дроби. Относительно же существовавших до революции охотничьих винтовок для данной цели—автор немного ошибается и сообщает не совсем верные сведения, что может ввести в заблуждение тех охотников, которые недостаточно знакомы с оружейной техникой.

Автор не прав, заявляя, что до революции на русском рынке не было подходящего пулевого оружия для русского охотника. Многие фирмы доставляли подходящее заграничное оружие для стрельбы пулей по птице и мелкому зверю.

Если же продавались такие неподходящие винтовочки как Ля-Франкотт, Ля-Франзес, Буфало Лебель и т. п. кал. 6 м/м бокового огня, так потому, что был спрос на подобное оружие, все же несколько более убойное, нежели кал. 22 бок. огня, стоившее недорого и производившее мало шума. Кроме того, патроны к означенным винтовочкам стоили дешево и везде были в продаже.

Вообще, после выхода в свет первого издания книги С. А. Бутурлина (1900 г.) среди охотников, интересующихся нарезным оружием, установился более правильный взгляд на охотничью винтовку. Торговцы, ознакомившись с книгой Бутурлина, в первую очередь, учли спрос и выписывали много серьёзных и практичных образцов винтовок.

Далее автор, останавливаясь на „птичьих“ калибрах, говорит лишь о двух патронах: кал. 25—20 и 32—20, как будто это самые лучшие калибры для упомянутой цели. Между тем многим охотникам известны и другие, не менее практичные для этой цели калибры, например, патрон Винчестера, кал. 22 центр. ог., патрон Саваджᴴ 22 „высокой скорости“, 32—40 общеизвестный американский патрон и, наконец, германский 8,15×46. Все эти патроны центральные, пераснаряжающиеся, обладают гораздо лучшей настильностью, нежели 32—20, имеющий при черном порохе весьма крутую траекторию.



Тов. Генерозов говорит о патронах калибра 25 и 32 „высокой скорости“, т.-е. заряженных бездымным порохом и пулей в оболочке или полуоболочке. Подобный патрон по своей дороговизне вряд-ли интересен для стрельбы по перу. Охотнику, да еще в глухой провинции—нужен патрон дешевый, переснарядка которого была-бы несложная. Таким требованиям не отвечают патроны с оболочечными пулями. Патрон же 32—40, при свинцовой пуле домашней снарядки, дает бой лучше патронов 25—20 и 32—20 „высокой скорости“. Немецкий патрон 8,15×46 интересен тем, что винтовки и припасы этого калибра *имеются* в продаже в Москве.

Приведенная автором табличка очень мало говорит молодому охотнику: там и аршины, и футы, и граммы, а главное—такого оружия нет теперь в продаже, нет и приборов для переснаряжения патронов. Приходится сожалеть и о неточностях вроде того, что пуля кал. 25—20 весит 86 грамм, а 32—20 весит будто-бы 115 грамм, т.-е. тяжелее четверти фунта.

Упомянутые патроны были сконструированы не для литых пуль, как полагает автор, а для штампованных свинцовых пуль, не допускают снаряжение литыми пулями.

Кроме магазинок с рычагом под скобой, давно известны магазинки Кольта с подвижным цевьем.

Мнение автора, что кал. 6 м/м. бок. огня не является охотничьим калибром—совершенно правильно. Хорошо, что таких патронов уже нет в продаже. А то многие малоопытные охотники склонны признавать даже кал. 5,4 м/м (22 бок. ог.) охотничьим, тогда как означенный калибр отмечается крайней легкоранностью.

Сообщение об образцах американских винтовок, которые мало или совсем неизвестны у нас, интереснее и заслуживает внимания.



# Літаратура і жыцьцё



Тарас Палясоўшчык.

## Міліцыянэр і вуціныя яйцы.

*Паляўніцкі фэльетон.*

Міліцыянэр і... вуціныя яйцы. Прычым тут што? У нашы дні хутчэй выходзіць:—Міліцыянэр і самагоншчык, міліцыянэр і хуліган, міліцыянэр і злодзей, і п'яніцы...

А вось у Бабруйскае райміліцыі вышла: міліцыянэр і вуціныя яйцы... Ну што-ж, нічога ня зробіш! Вышла, дык вышла...

Пачалася гэта справа ўся на балоце. У Бабруйшчыне балотцы такія розныя ёсьць, і рэчышчы каля рэчкі Бярозы. На балотцах кусты розныя растуць; каля рэчышча чарот шуміць. На балотцах дзіч розная водзіцца—качкі, напрыклад. Качкі яйцы нясуць... Гэта ўсім вядома? Дзіва, што вядома!.. Нават от Пятрок Феська з в. Цялуша, з той-жа самай Бабруйшчыны знае, што ў балотах і рэчышчах качкі водзяцца, і што качкі яйцы нясуць, і што нават з яец яешня добрая бывае. Дык ось ён што знае! Разумны чалавек!.. Дык ось, аднаго разу гэтага самага Феську нямаведама чаго па балоце ганяла. Хадзіў ён па балоце, хадзіў, а тут вутка з куста фырсь... і паляцела!

Гэта якраз вясной было. А вы ўжо ведаеце, ды і Феська знае, што з яец яешня бывае смашная. Ён падкасаў вышэй штаны і ў кусты. Туды-сюды—бачыць яйцы ляжаць. Ды шчэ колькі, аш дванаццаць штук.

Радасьць схапіла Пятра Феську, а Феська схапіў яйцы, палажыў іх у прыпол і гайда па балоту да дому. Ніто ён частку іх па дарозе пабіў, ніто з апошніх яешню сьпёк, неяк так было. Думаеце, што на гэтым самым смашным месцы справа і скончылася? Не, бачыце, не...

Нейкім там чынам гэтая самая вутка ды пажалілася на Феську ў Бабруйскі саюз паляўнічых.

Ну, а саюзу паляўнічых куды скардзіцца? Вядома куды, тут-жа па суседзтву міліцыя. Перадалі справу з вуцінымі яйцамі за № 628 у райміліцыю. Нейкім там чынам яна папалася пом. пом. начальніка райміліцыі А. Кароткіну. Павярнуў паперку Кароткін у руках, паглядзеў, паглядзеў на яе, потым пачасаў алоўкам за левым вухам і ўзяў са стала кавалак паперы. Потым яшчэ кавалак ўзяў, паклаў паміж імі капіравальную паперу і пачаў „адгаварваць“ Бабруйскі райсаюз паляўнічых ад справы з яйцамі.

Піша:—„Знаете-ли, что Раймилиция считает, состав преступности настолько маловажен и мелочен, с одной стороны, нанесенные убытки БССР настолько незначительные“...

О, чалавек. Страты БССР... А ня то што!.. Міравога маштабу чалавек, а вось за дарма прападае у райміліцыі.

Павёў алоўкам А. Кароткін за правым вухам і пачаў канчаткова дабіваць справу з яйцамі:—„Ибо если сопоставить стоимость 12 яиц дикой утки со стоимостью 12 яиц куриных, стоющие по кооперативной цене по 3 коп. одно яйцо, утиные яйца дикой утки, поскольку они по удельному весу легче куриных (?) на 50%, а следовательно и в цене дешевле на 50%—всего каштуюць (тут ён правёў сваю беларусізацыю. Па яго матэматыцы ён так беларусізаван на 1% і на 99% покуль шчэ не) 18 капеяк“.

Як гаворыцца коратка і ясна. Далей ён пашоў агітаваць, уцяшаць саюз, што ня стоіць ехаць, толькі каня ганяць задарма, лепш міліцыянэр туды зьезьдзіць па другіх якіх „больш важных“ справах. Адным словам няхай будзе нам добра і Феську прыемна.

А ахова законаў паляўніцкае гаспадаркі, абарона якіх-та там вутак, шут з імі. Вазіся з якімі там яйцамі, ды шчэ дзяшовымі такімі і ўсяго 18 капеек 12 штук, калі ў каапэрацыі яец уга колькі, 3 капейкі штука. Толькі бяры, а што з яец з такіх выходзіць і выводзіцца гэта не міліцыянэрская справа. Пасьля агітацыйнае і супакойваючае адносіны ўнізе і расьпісаўся: п. п. нач. раёна міліцыі А. Кароткін, а пасьля яго—С подлинным верно: Секретарь правления Боброхоты Веревкин. О, што значыць быць чалавекам міравога маштабу. О, што значыць быць чалавекам з разьлікам, што значыць ведаць удзельную вагу яец і іх каштоўнасьць, тады хто табе што, любога чалавека, любы саюз можаш пераканаць.

---

В. Ветов.

## Чернопегая в румянах.

*(Окончание).*

«Эх, была—не была!—подумал я.—Авось, мое ружьишко достанет».

Я прицелился и выпалил по лисе. Дробь не сделала ей вреда, но выстрел шибко напугал ее. Она подпрыгнула, мотнула хвостом и, забыв со страху про всякую осторожносьть, что было духу, припустилась по льду, вытянувшись в огненную ленточку.

Не выдержал тонкий лед отчаянных скачков ли-

сицы. Он с треском сломался под ней на самой середине пруда, и лиса провалилась в воду. Она барахталась, пыталась выбраться на лед, но ее передние лапы неизменно обламывали край лишь только она на него упиралась. Хотя лиса и была вне выстрела, но песенка ее теперь была спета. От нас она никуда не могла уйти. Семен Семеныч побежал по правому берегу, а я—по левому. Лиса видела нас и не знала, куда ей выбираться. Это было редкое и интересное зрелище. Мы с Семен Семенычем весело перекликались.

— Владим Сергев! Забегайте к лозинам! Пужайте лису на меня!

— Смотрите, Семен Семеныч, не промахнитесь!

— Не сумлевайтесь, Владим Сергев! Не смажем! Это уж официально!

В это время появилась Амляшка. Она сразу увидала лису. Громко взвыла чернопегая в румянах и с размаху вскочила на лед всеми четырьмя лапами, Два-три прыжка, и лед с треском обломился под нею. Не взирая ни на что, смелая собака устремилась к лисе, ломая грудью лед. Лиса окончательно обалдела. Она бешено закружилась в воде.

Амляшка быстро приближалась к ней, и через минуту в студеной воде завязалась отчаянная, смертельная борьба. Собака и зверь вцепились друг другу в морду. Вокруг них поднялся фонтан ледяных брызг. Какая это была захватывающая и волнующая картина! Амляха пыталась схватить своего врага за горло, но при этом вода всякий раз попадала ей в раскрытую пасть, и собака захлебывалась. Тогда острые зубы лисицы вонзались в Амляшкино ухо или губы. Амляшка старалась подмять под себя лисицу и утопить ее, но лиса была чертовски проворная и изворотлива. Она мужественно защищалась.

Так длилось с полчаса... Полчаса в студеной воде среди плавающих льдин—какое это должно было быть страдание! Наконец оба противника исчезли под водой. Судя по бурлившей воде, они и там продолжали борьбу. Это была жуткая минута. Казалось, обе погибли. Но вот из воды показалась голова Амляшки. Она победила! Возле нее всплыло рыжее тело матерой лисы.

Какие чувства переполняли нас!..

Несравненая Амляшка! Ни одна собака еще не заставляла своих хозяев переживать столько ярких, незабываемых моментов!

— Ура-а!—закричал Семен Семеныч.—Амляха! Амляшечка! Амлянчик!

Собака повернула к берегу. Видно было, что и она выбилась из сил. Ломая лед передними лапами, она то-и-дело с головой проваливалась в воду. Она устало и тяжело дышала. Хрип вырывался из ее окровавленной пасти. Все чаще и чаще ныряла она. Все медленнее становились ее движения. Она плыла ко мне. Семен Семеныч перебежал на мой берег. Нам хотелось броситься в пруд и помочь собаке. Но вот она сделала страшное усилие и достигла берега. Мы наклонились к воде и вытащили Амляшку на сушу.

Что за истерзанный вид был у нее. Ее уши были изорваны, губы в крови. С хрипом повалилась собака на землю. Все тело ее дрожало и дергалось. Мы склонились над ней. Она посмотрела мне в глаза странным, потухающим взглядом и оглянулась на Семен Семеныча. Вдруг ее пестрое тело скорчилось в страшной судороге, и она неподвижно застыла... Не выдержало собачье сердце—Амляшка была мертва!..

Мы с Семен Семенычем были как громом поражены.

— Кончилась чернопегая... знать, отгонялась!.. Владим Сергев... Как же так!.. Что теперь с нами будет? Что нам теперь делать?

Слезы подступили нам к горлу... Амляшка!.. бесценная, дорогая Амляшка!..

— Что делать? Только одно остается: давайте схороним ее. Не оставлять же ее на с'едение лисам? Попросим лопату вон в той избушке возле плотины.

Молча закопали мы нашу собаку в черной, еще не промерзшей земле и накидали сверху аккуратненький холмик. Семен Семеныч встал над могилой и, взяв ружье, взвел курки.

— Что вы хотите делать?

— Салют! Уж ежели хоронить, так хоронить по совести!

Семен Семеныч дважды выпалил в воздух. Его примеру последовал и я. Потом Семен Семеныч снял с себя серебреный рог, выигранный Амляшкой на губернской выставке, и протяжно в него затрубил.

На наши выстрелы и на звук рога откуда ни возьмись прибежали Рыдало, Докука и Докукины дети. По всей вероятности, они поймали своего зайца и теперь отыскали нас. Они были измучены и тотчас же сели у наших ног вокруг могилы Амляхи. Семен Семеныч все еще трубил. Вдруг все четыре собаки задрали головы кверху. Протяжный надрывающий вой собак далеко прокатился над запорошенной землей. И выли же они! Казалось, они поняли все.

Эх, твари! Не видать вам больше Амляшки... Не видать вашей подруги...

— Владим Сергев, хорошо бы на могиле какой нибудь официальный знак оставить. К примеру сказать, кол с дощечкой, а на дощечке надпись сделать. Пусть охотники, которые тут будут охотиться, прочтут и прочувствуют какая у нас с вами чернопегая в румянах была.

Я достал карандаш и принялся сочинять надгробную надпись. У меня получилось что-то очень длинное и торжественное точь-в-точь как пишут на могильных памятниках. Я прочел свое сочинение вслух. Семен Семеныч тихо покачал головой:

— Нет, Владим Сергев, нехорошо: тут нет души... мало чувства. Дайте-ка я попробую.

Он взял у меня карандаш и, сопя носом, долго что-то писал и перечеркивал. Наконец он прочел следующее:

Чернопегая в румянах
На Щадиловым пруду
Задушила официально
Матерущую лису.
От усердия скончалась
Посьле лисьего конца.
Погребенье состоялось
Тут же третьего числа
1926 года, ноября месяца.
Покойся храбрая сука,
Под тенью камышей!
Другим будет наука,
Как ты гнала лисей.
Гнала она парато,
Но была малость горбата,
Голос у нее был итальянский,
А померла она на казанскую
(по старому стилю).

С почтением С. Боченкин и В. Хвощ.

Это стихотворение, написанное от полноты чувств рукой моего друга, и по сие время красуется над скромной могилкой незабвенной чернопегой Амляшки. Все наши охотники знают его наизусть.

# КАРЦЕЧЧУ ПА БРАКАНЬ

## Там, дзе паляўнічыя сьпяць, ваўкі робяць сваю справу.

### Удалая аблава.

(*Бялыніцкі раён*).

18 жніўня ў вёс. Зазер'я адбылася аблава на ваўкоў. Падвыўка была зроблена добра і логавы ўстаноўлены дакладна. Паляўнічых сабралася шмат: хто з аднастволкай, хто з пістонаўкай, усе пайшлі на ворага—шэрага бандыта.

Ваўкоў было ў загоне шмат, цэлы вывадак з старымі ды пераяркамі. Але пераяркі выйшлі з абкладу яшчэ да таго, пакуль сталі на нумары стралкі.

Пачаўся загон. Панёсься па лесе крык і ваўкі сталі выскакваць на нумары. У выніку забіта 4 ваўкі, з іх адзін стары, вельмі вялікі. Другі стары параненым выйшаў з загону ды некуды зьнік.

Ваўкоў каля вёскі Зазер'я вельмі шмат—у гэтым годзе іх было некалькі вывадкаў, па словах мясцовых сялян ня менш 3-х вывадкаў. Барацьба з імі вядзецца ня зусім добра. Бялыніцкае бюро калектыву не праяўляе ініцыятывы. Кепска тое, што звычайна бюро калектыву запрашаюць на аблаву, замест таго, каб само бюро праявіла ініцыятыву ў гэтай справе.

**Цэлеш.**

### Як мы працуем.

(*Талькаўская ячэйка паляўнічых, Пухавіцкага раёну*).

Талькаўскі гурток працуе ня кепска. З гуртка выкінуты кулакі ды пазбаўленыя выбарчых правоў. Ідзе падрыхтоўка па ваенізацыі членаў саюзу паляўнічых. Праводзілася вялікая работа па барацьбе



з драпежнікамі. Так, арганізоўваліся аблавы на бадзячых сабак ды катоў. Па барацьбе з драпежнікамі вылучана асобная „пяцёрка“.

Па ініцыятыве гуртка 4 жніўня адбылася аблава на ваўкоў. Яўка на аблаву была добрая: зьявілася 64 паляўнічых. Аблава прайшла пасьпяхова: забіта 5 маладых і 1 стары воўк. Ваўкамі было зарэзана ў ваколічных вёсках, дзе была аблава, больш за 10 авечак і некалькі сабак.

**Фаламетаў.**

### Сельсавет сарваў аблаву.

23 жніўня Брагінскі РВК даў загад *Савіцкаму* сельсавету даць Брагінскаму калектыву паляўнічых для правядзеньня аблавы каля вёс. Савічы 25 загоншчыкаў. Але даць загад адно, а другое выканаць яго.

Зрабілі паляўнічыя падвыўку, устанавілі месца знаходжаньня ваўкоў, сабраліся, часам за 40 кілёмэтраў, у в. Савічы і пачалі чакаць загоншчыкаў ды і не дачакаліся. Зьвярнуліся да старшыні, а той наадрэз адмовіўся даваць загоншчыкаў.

Парашылі паляўнічыя сваімі сіламі зрабіць аблаву. Меркавалі, меркавалі ды нічога ня вышла.— Аблаву зрабілі, а ваўкоў не ахапілі абкладам, бо мала было паляўнічых. Трэба Брагінскаму РВК дабіцца, каб яго распараджэньні выконваліся сельсаветамі.

**Сідарэнка.**

### Ратуйце вульскае бюро!

(*Полацкая акруга.*)

Недалёка ад м. Вула ў маленькім балотцы ў гэтым годзе быў вывадак ваўкоў. Бюро-ж калектыву паляўнічых аб гэтым нічога ня ведае ды і ведаць ня хоча, што робіцца на яго вучастку і ня прымае ніякіх захадаў, каб зьнішчыць драпежнікаў, і ваўкі сабе растуць ды падзякваюць паляўнічым за пашану да іх.

Падойдзе час паляваньня на зайцоў ды лісіц, і не адзін ганчак паплоціцца жыцьцём за такую пашану да ваўкоў, ды і сялянам горача будзе ад іх.

**Цікавы.**

### Конкурс па ахове драпежнікаў.

У часопісе „Паляўнічы Беларусі“ абвешчан конкурс па зьнішчэньню драпежнікаў, а *Полацкае* акруговае таварыства паляўнічых мусіць не зразумела гэтага ды абвясьціла конкурс па ахове драпежнікаў.

Так, у заказьніку каля г. Полацку маецца вывадак ваўкоў, радам з заказьнікам, каля в. Туроўлі—другі, недалёка ад гэтага—трэці. Праўленьне-ж да гэтага часу ніякіх аблаў па зьнішчэньню драпежнікаў не рабіла. Некаторыя паляўнічыя думаюць, што гэтыя ваўкі пакінуты акруговым праўленьнем, як племянныя, для разводу і ўзяты ім пад ахову.

**Паляўнічы.**

### Дабіраюцца да паляўнічых.

(*Уваравіцкі раён.*)

Шмат шкоды зрабілі ваўкі сялянам в. Альхоўка: задушылі каля 2 дзесяткаў авечак ды сьвіней, а бюро калектыву паляўнічых сьпіць непрабудным сном.— Ім, нават, і ня сьніцца аблава. Можа тады прачнуцца, калі ваўкі дабяруцца да паляўнічых.

**К. С.**

### Зьнішчаем драпежнікаў.

(*Рэчыцкі калектыў*).

Усяго Рэчыцкім калектывам зьнішчана ваўкоў за гэты год 63 маладых—11 вывадкаў. Старых 7 шт., з якіх 3 аблаўным спосабам. З 26 чэрвеня праведзеныя 4 аблавы няўдачлівы, з аднаго боку, што дрэнна падрыхтаваліся паляўнічыя, з другога, што трэба пачынаць аблавы з першых дзён верасьня, а ў крайнім выпадку—з другой паловы жніўня. Як сельсаветы, так і сяляне дапамагалі ў правядзеньні аблаў.

**Бабчонак.**

# ЕРАХ ДЫ БЮРАКРАТАХ

## Абвесьцім бязлітасную барацьбу браканьерам—ворагам паляўнічае гаспадаркі.

### Бацька браканьераў.

У нас у Халопеніцкім раёне былі частымі выпадкі паляваньня ўсёй сям'ёй па аднаму білету. Гэтае пытаньне абгаварвалася на сходах і нарэшце такія выпадкі зьнішчыліся.

31 ліпеня на сенажаць каля ракі Есы прыехаў паляваць на цецярукоў, вядомы нам па часопісі „Паляўнічы Беларусі“ № 8, загадчык Белдзяржзапаведніка *Гурын* з сваім насьледнікам. Між вёскамі Рудным і Студзенкаю яны найшлі цецяравіныя выпадкі і добра папалявалі.

З мясцовых паляўнічых (на жаль) не найшлося сьмельчака запытацца ў гэтага браканьера білету. Пасьля выявілася, што насьледнік Гурына—Сьцяпан ўжо тры гады палюе па бацькаўскаму білету.

Барысаўскаму калектыву паляўнічых трэба выключыць з саюзу паляўнічых „бацьку браканьераў“.

**Н. Н.**

### Замест лісіцы—сабака.

Паляўнічы з в. Белая лужа, Жодзінскага с/с. Смалявіцкага раёну, *Дабравольскі М. Ф.* зусім ня лічыцца з законамі аб паляваньні.

Так, у 1927 г. ён ставіў жалезы (пастка) на лісоў, пакуль у іх не папаўся сабака. У 1928-29 годзе ўзімку разрываў лісіныя норы ды з свайго гумна біў зайцоў на прынадзе. Акрамя таго, па яго білету палюе яго сын Уладзімер ды шмат іншых праступкаў робіць Дабравольскі.

Смалявіцкаму калектыву трэба зьвярнуць увагу на гэтага паляўнічага.

**Т. П.**

### Тут скрываюць.

Ёсьць паляўнічыя, якія скрываюць браканьераў. З такіх паляўнічых гр. *Пінчукоў Кузьма* і *Белавусаў Макар* Рэчыцкага калектыву. Каля іх хат увясну нехта ўвесь час страляў цецярукоў ды сабіраў яйкі качак, а калі мы хацелі злавіць гэтага браканьера, ды зайшлі да Кузьмы Пінчука і Белавусава Макара запытацца, хто палюе каля іх вёсак, дык яны скрылі браканьераў.

А што лепш, здавалася-б, узяць ды самім злавіць браканьера, дык не, яшчэ замоўчваюць. Хіба можа яны самі браканьерствуюць, ды порах прадаюць браканьерам?

**Карлоўскі.**

### Сорную траву з поля вон.

Старшыня бюро калектыву паляўнічых Жлобінскага раёну надаслаў у праўленьне „Белкохотсоюза“ акт, складзены на цэлы шэраг паляўнічых, ня стрымаўшых свой паляўнічы пал перад адчыненьнем паляваньня і пачаўшых паляваньне на балотную дзіч 27 ліпеня з раніцы. Вось гэтыя „гэроі“: 1) *Бараноўскі А. С.*, білет № 454, 2) *Бараноўскі І. С.*, білет № 456, 3) *Дзержковіч І П.*, білет № 453, 4) *Зубовіч М. А.*, білет № 46, 5) *Казлоўскі І. П.*, білет № 463 і 6) *Кавалеў Ф. Г.*

Гомельскае акруговае таварыства паляўнічых прыцягвае гэтых браканьераў да адказнасьці і выключыла з саюзу паляўнічых.

### Выключыць з саюзу.

Грам. вёс. Сперыж'е, Брагінскага раёну, *Мартыненка А. М.* чакаў паляваньня на качак цэлы год, ды ня стрымаў свайго паляўнічага палу толькі на адзін дзень.

27 ліпеня раніцай ён сам сабе дазволіў паляваньне, ды забіў 3 качкі. Пра гэта ўзнала сельячэйка в. Сперыж'е, склала пратакол які перадала праз райкалектыў ў міліцыю.

Будзем спадзявацца, што міліцыя прыцягне да адказнасьці зайздроснага паляўнічага, а Бюро Брагінскага калектыву выключыла з саюзу такога палкага паляўнічага.

**Сідарэнка.**

### Лясьнічы Гульбішаў арудуе.

Супроць вёскі Навасёлак, Барысаўскага раёну па рацэ Бярозе раскінуты багны, вазёры, чароты—аблюблёнае месца качак. Вока чалавека ня можа ўбачыць іх там у чаротах ды заросьніках і яны вясёлыя жыруюць там сабе, поўзаюць па гразі. Але вельмі вострае вока ў лясьніка Барысаўскага лясьніцтва *Вайцэхоўскага*.

Калі НКЗем дазволіў паляваць на балотную дзіч 28/VII, дык Вайцэхоўскі напалохаўся, што паб'юць качак іншыя паляўнічыя, сеў на каня ды паехаў за сваім панам-лясьнічым *Гульбішам.* Чуць на золак 27/VII яны адчынілі паляваньне ды пабілі гэтых качак.

Барысаўскаму Бюро калектыву і Менскаму АКРЗА трэба зьвярнуць увагу на гэтых паляўнічых.

**Паляўнічы № 433.**

### Заказьнік не ахоўваецца.

У Ціхінскім лясьніцтве, Дабасіянскай дачы ў 1920 годзе быў аб'яўлен заказьнік. Дзічы ў ім раней трохі было. Былі зайцы, лісіцы, куніцы, цецярукі, белая курапатка і, нават, глушцы.

Лісіныя норы раскапалі браканьеры, а таксама браканьеры павыбілі і іншую дзіч, бо заказьнік з рук вон кепска ахоўваўся і быў не на ўвазе Бабруйскага акруговага таварыства паляўнічых.

Магчыма, што дзіч у ім яшчэ і разводзілася-б, дык у 1921-22 г. быў падпален лес ды балоты заказьніка і павыгаралі лепшыя мясцы для дзічы.

Бабруйскае акруговае таварыства паляўнічых павінна нешта зрабіць з гэтым заказьнікам.

**Шмялёў.**

### Лясьнік-браканьер.

Здаецца лясьнік ня толькі павінен сам захоўваць тэрміны і спосабы паляваньня, але прамыя яго абавязкі і лавіць браканьераў. Дык, дзе там! Лясьнік Любаньскага лясьніцтва з *в. Пласткі Мышчэня Рыгор* чхае на ўсе правілы ды законы і палюе тады, калі яму захочацца і як захочацца, а паляўнічы білет трымае ў кішэні. Надоечы ён ішоў каля імха „Снопава“ і ўбачыў там плаваючых качак малых. Што лясьніку да правілаў паляваньня?—улез ён у балота і забіў пяць качак.

Але думаецца, што і на лясьніка законы ёсьць і Любаньскі калектыў паляўнічых выключа яго з саюзу, а лясьніцтва прагоне са службы.

**Паляўкор.**

# ЯК ЗРАЗУМЕЛІ ЧЫСТКУ Ў АСТРАШЫЦКІМ-ГАРАДКУ.

## Пакрыўленьне клясавай лініі. Скарыстаньне службовага становішча. Выключэньне з саюзу з-за добрых стрэльбаў.

ШМАТЛІКІЯ карэспандэнцыі з далёкіх раёнаў — з Гомельшчыны Магілеўшчыны, Полаччыны і інш.—паведамляюць аб пасьпяховай, правідловай чысткі як апарату паляўнічай кааперацыі, так і самых радоў яе.

Але ёсьць такія раёны і ёсьць людзі ў іх, якія гэта перавярнулі, перакруцілі, перайначылі ў сваю карысьць. Як у нас, у Астрашыцка-Гарадзецкім раёне бюрократы абцяпвалі свае справы пад відам чысткі?

Там усяго выключана 49 чалавек членаў саюзу паляўнічых. Астрашыцка-гарадзецкія бюрократы выкарысталі сваё службовае становішча ў сваю карысьць. Яны выключылі з саюзу паляўнічых тых, хто меў добрыя стрэльбы, хоць-бы сабе ён, згодна данай „Белкохотсоюзом“ дырэктывы і не належаў да чысткі.

Так, ахвяраю чысткі паў Радкевіч, не пазбаўлены выбарчых правоў і ні ў чым іншым не замечаны. Андрушкевіч Валентын таксама. Адынец з х. Ліпавы-Капец, Папярнянскага с.-с. выключан па злабе на яго старшыні камісіі па чыстцы і разьмеркаваньню адабраных стрэльбаў Дашукевіча. Выключан Маісеевіч Адольф, былы рабочы з шасьцігадовым стажам, зараз працуючы на гаспадарцы, не пазбаўлены выбарчых правоў.

Хто-ж арудваў у Астрашыцкім-Гарадку ды чаму выключаны ня тыя людзі, якія павінны быць выключаны?

Калі паднялося пытаньне аб чыстцы радоў паляўнічых, там была складзена камісія, у якую ўвайшлі даволі аўтарытэтныя асобы: начальнік райміліцыі Мінчын, член партыі Дашукевіч Алесь, агент крымінальнага вышуку Жукоўскі і прадстаўнікі ад бюро каляктыву паляўнічых Красоўскі і два бедныякі актыўныя паляўнічыя. Пры такім складзе, здавалася-б, работа павінна ісьці добра. Дык не ж, фактычна камісія не працавала. У ёй распараджаліся, дыктавалі сваю волю, галоўным чынам, два чалавекі—*Дашукевіч Алесь* ды начальнік міліцыі *Мінчын*.

Быў такі выпадак. Мінчын прыйшоў у бюро каляктыву, узяў сьпісы паляўнічых і выкрэсьліў адтуль некалькіх асоб. Калі ён на сене праспаўся, то сам сабе ня верыў, што зрабіў; зьмяніў сваё рашэньне ды пакінуў некаторых з перакрэсьленых гадзіну таму назад таварышоў.

Меў індывідуальны падыход да паляўнічых і Дашукевіч. З выключэньнем паляўнічага Адынца не згаджаліся некаторыя члены камісіі. Дашукевіч сказаў, што ён добра ведае яго, бо калісь жыў у яго на кватэры ды выкрэсьліў з сьпісу паляўнічых. Але найбольшы ўплыў на членаў камісіі мела матар'яльная выгада.

Адабрана ў выключаных з саюзу паляўнічых 49 стрэльбаў, а раздана беднаце бюро каляктыву паляўнічых сем. Дзе-ж астатнія стрэльбы, каму яны адданы?

Некалькі самых лепшых стрэльбаў чамусьці Дашукевіч аддаў менскім знаёмым, ды ўзяў адну сабе. Адну стрэльбу ў мінулым годзе ён атрымаў у Лагойскім раёне пад відам каапэраваньня беднаты, а зараз падарыў яе сакратару райкому т. *Сурбе*. Сем стрэльбаў начальнік міліцыі Мінчын перадаў нейкаму кружку паляўнічых у Менску, а якому кружку ды чаму ў Менск перададзены,—гэта сакрэт вынаходцы. Той-жа Мінчын прысвоіў адну канфіскаваную стрэльбу ў мінулым годзе ды прадаў яе за 20 рублёў аб'ездчыку Яцуку, які, у сваю чаргу, перапрадаў яе за 35 руб. Дашукевіч аддаў добрую стрэльбу загадчыку млынам. Атрымаў добрую стрэльбу і сын былога жандара.

Такім чынам *43 лепшыя стрэльбы папалі ў рукі знаёмых Мінчыну, Дашукевічу за бясцэнак і толькі 7 нікуды нявартых пістонавак, цаной ад 50 кап. да рубля былі разданы беднаце*. У Астрашыцкім-Гарадку лоўка ашукалі беднату, лоўка абыйшлі дырэктывы „Белкохотсоюза“ аб каапэраваньні беднаты стрэльбамі за лік канфіскаваных пры ачыстцы паляўнічае каапэрацыі ад кулакоў ды браканьераў.

Чаму-ж былі такія беспарадкі ў Астрашыцка-Гарадзецкім раёне? Чаму пакрыўлена клясавая лінія? Што рабіла бюро каляктыву паляўнічых?

Прадстаўнікі бюро каляктыву ў камісіі т. Красоўскі і два актыўныя паляўнічыя-беднякі спрабавалі супярэчыць Мінчыным-Дашукевічам, але іх ініцыятыва была бюрократычна паралізавана.

**Паляўнічы.**

**Ад рэдакцыі:** З тае прычыны, што ў рэдакцыю паступілі скаргі на няправільнае выключэньне з саюзу паляўнічых і разьмеркаваньне адабраных ад вычышчыных стрэльбаў, рэдакцыя зьмяшчае гэты артыкул і просіць Менакрпракуратуру праверыць паказаныя ў гэтым допісе факты.

---

# Суд „змагаецца“ з ворагам.

Селянін вёс. Навінка, Байдацкага с/с., Койданаўскага раёну, *Раманоўскі Алесь* меў стрэльбу. Ні дазволу ад міліцыі на гэту стрэльбу, ні білета саюзу паляўнічых ён ня выбіраў, а паляваньнем займаўся ды шмат псаваў дзічы ды зьвера.

Бюро каляктыву паляўнічых Койданаўскага раёну паведаміла міліцыю, каб адабраць стрэльбу ад Раманоўскага, як ад браканьера. Пры вобыску ў Раманоўскага стрэльбы не знайшлі, але за тое знайшлі скурку зайца, пэўны рэчавы доказ браканьерства Раманоўскага.

Справа па абвінавачваньню Раманоўскага ў браканьерстве была накіравана ў Народны суд 5 вуч. Менскае акругі, дзе і разглядалася 16 жніўня г/г. Раманоўскі прызнаўся, што стрэльба ў яго была (нібы яе зараз няма), але ён паляваньнем не

займаўся, а зайца злавіў ў капкан (што караецца горш за браканьерства).

Я выварнуў скуру зайца мяздрай наверх, і там было відаць 5 дзірак ад шроту. Суд упэўніўся, што заяц забіты стрэлам і Раманоўскі самы звычайны браканьер, якіх у нашай краіне яшчэ шмат.

Суд вынес прыгавар... І што-ж, вы думаеце—Раманоўскага сурова пакаралі? Засудзілі? Аштрафавалі? Вы памыляецеся. Суд засядаў па справе Раманоўскага толькі для адводу вачэй, апраўдаў яго, і той зараз спаганяе ўпушчанае ды сьцёбае зайцоў.

Мы павінны запытацца ў Народнага суда 5-га вучастка Менскае акругі, якія яму яшчэ трэба доказы па справе браканьерства, апроч рэчавых ды прызнаньня абвінавачванага.

28-га жніўня мне прынёс прадавац браканьер дзьве скуркі выдры. Гэту справу трэба накіраваць у той-жа Народны суд і я баюся... баюся, што гэтым толькі раззлую браканьера, бо прыгавары Нарсуда 5 вучастка Менскае акругі „б'юць“ па браканьерах, „як пугай па вадзе“.

Менскай акруговай пракуратуры неабходна апратэставаць прыгавар Нарсуда 5 вуч., бо такой мерай барацьбы з браканьерамі паляўнічая каапэрацыя ніколі не пазбавіцца ад іх.

**Паўлюц.**

## Бег на месцы.

(*Клімавіцкі, раён, Маг. акр.*)

У часопісе „Паляўнічы Беларусі“ № 7 у арт. „Першы сход паляўнічых Клімаўшчыны“ мы адзначалі асаблівую актыўнасьць удзельнікаў сходу паляўнічых Клімаўшчыны. Гэта актыўнасьць давала надзею на энэргічную работу новага складу бюро калектыву і рэвізійнай камісіі.

Не прайшло і месяца пасьля сходу, як адбылося першае арганізацыйнае пасядженьне бюро і рэўкамісіі, а яшчэ да гэтага рэўкамісія абрэвізавала дзейнасьць былога ўпаўнаважанага калектыву паляўнічых Клімаўшчыны. На паседжаньні разьмеркавалі абавязкі членаў бюро, і абралі старшыню калектыва ды рашылі выехаць на мясцы для арганізацыі сельячэек. І вось едзем, едзем два месяцы і ўсё топчымся на адным месцы.

У дарозе нас даганяе паведамленьне аб нападзе ў Гразявіцкім сельсавеце шэрых бандытаў-ваўкоў— паранена 5 коняй, такую-ж інфармацыю чытаем у газэце „Магілеўскі селянін“—паранена 8 коняй.

— Тэрміновыя паседжаньні, прыняцьцё мер... камандыроўкі членаў калектыва на мясцы для барацьбы з шэрымі бандытамі... і ўсё бег на месцы.

Адзін перагружан работай, другому нязручна займацца справай барацьбы з драпежнікамі ды арганізацыяй сельскіх паляўнічых ячэек, трэці баіцца, што ня высьпіцца, чацьвертаму хочацца займацца паляваньнем на волі... Шукаем новых працаўнікоў. Працаўнікоў няма, дзе іх узяць, а ваўкі робяць сваю справу.

Хацелі ўзяць *Рубанова*, але ён заўсёды водзе за нос паляўнічых з гэтымі аблавамі. Узяць клімавіцкага лясьнічага *Худобкіна*, дык у яго сабакі злыя ды ня трымаюцца на прывязі, дык боязна, усіх зайцоў перадушаць! Дзе-ж узяць людзей кіраваць аблавай! Старшыня калектыву? Дык яго-ж няма, паехаў... Члены? Яны кепска сябе адчуваюць, ды і служба, ого-о-о служба... Служба—ня дружба? Рэўкамісія? Ей не абавязкова.

І так, стаіць на адным месцы запрэжаная цялега.

**Стасенка.**

## „Паляўнічы Беларусі“ дапамог.

У № 6 часопісе „Паляўнічы Беларусі“ за 1929 год была зьмешчана заметка „Пад апекаю Расонскага суду“, у якой даводзіўся факт слабага пакараньня браканьераў Расонскім судом.

Пракуратура Полацкае акругі зрабіла расьсьледваньне па гэтай заметцы і ў адносіне да браканьера Беладзеда Хвёдара апратэставала прыгавор Народнага суду Расонскага раёну.

Адносна другога абвінавачваемага – Маркоўскага Піліпа, Полацкая пракуратура паведаміла, што прыгавор Расонскага суду па яго справе правідловы.

Па заметцы „Што думае Наркамзем і „Белкохотсоюз“, зьмешчанай у часопісе „Паляўнічы Беларусі“ № 7 Лясная група НКЗББел. паведаміла рэдакцыю „Паляўнічага Беларусі“.

1. Сродкі на ахову заказьніка па р. Проні ня былі зацьверджаны НКФ у бюджэце 1928-29 г, як і на іншыя заказьнікі, загэтым НКЗ ня меў магчымасьці трымаць спэцыяльных вартаўнікоў, а ахова заказьніка вядзецца на падставе існуючых палажэньняў лясной вартай.

2. Сплаў драўніны быў НКЗемам дазволен з тае прычыны, што па рацэ Проні вышэй заказьніка знаходзілася значная колькасьць нарыхтаванай драўніны і яе можна было даставіць па прызначэньню толькі сплаўным шляхам.

3. АКРЗА прапанавала абсьледваць яшчэ раз заказьнік па р. Проні і ў выпадку знахаджэньня там сямей баброў—строга вызначыць там заказьнік, згодна новага палажэньня з адпаведнай аховай яго“.

Па артыкулу „Справы, кіраўнікі і вартаўнікі Белдзяржзапаведніку“ пракурорам Менскай акругі т. Судаковым дан загад расьсьледваць гэтую справу і аб выніках паведаміць рэдакцыю часопісі „Паляўнічы Беларусі“.



І яна браканерствуе.




# Да пытаньня аб ахове дзічыны.

Геаграфічнае палажэньне і кліматычныя ўмовы БССР зьяўляюцца спрыяючымі, каб тут наглядаць рознастайнасьць радавога і відовага складу дзічыны. Але гэтага нельга сказаць у напрамку колькаснага складу дзічыны той ці іншай пароды, бо значная гушчыня залюднёнасьці нашай краіны—40—50 чалавек на квадратны кілёмэтр – ня спрыяе яе павялічэньню.

А калі заўважыць, што наогул, наша паляўнічая гаспадарка яшчэ добра не наладжана, што культурны ўзровень мас у гэтым напрамку вельмі нязначны, а сярод паляўнічых, нават служак запаведніку, маюцца браканьеры, тады зусім востра паўстае пытаньне аб неабходнасьці падняць на большую вышыну грамадзкую думку вакол пытаньня аб ахове дзічыны. Гэта грамадзкая думка павінна грунтавацца на наступных пытаньнях:

1. Ахова дзічыны ў напрамку эканамічных меркаваньняў.
2. Ахова дзічыны, карыснай у сельскай, лясной і інш. галінах народнай гаспадаркі.
3. Ахова дзічыны ў межах эстэтычных.

Само сабою зразумела, што гэтыя галоўныя напрамкі можна і патрэбна дэталізаваць і асьвятляць у друку самым падрабязным парадкам.

Вельмі дрэнна, што зусім адсутнічае ў нас навукова-папулярная літаратура ў гэтым напрамку.

Мала таго, трэба выдаць дастуныя па цане атлясы дзічыны, каб іх меў на руках кожны паляўнічы і аматар прыроды, бо мы бачым, што нават паляўнічы кепска арыентыруецца ў распазнаваньні родаў і відаў дзічыны, робячы стрэл у самую карысную птушку.

Неабходна сабраць ад нашых паляўнічых ды аматараў прыроды матар'ялы, сканцэнтраваць іх, узгадніць з крыніцамі аховы прыроды ў іншых рэспубліках ды за мяжою, а потым паставіць пытаньне аб самым, хаця-б пакуль прымітыўным, падзяленьні дзічыны на дзьве катэгорыі:

1. Дзічына, падлягаючая адстрэлу на тэрыторыі БССР.
2. Дзічына, забароненая да адстрэлу на тэрыторыі БССР.

Бязумоўна, кожная з гэтых катэгорый павінна мець падрабязны сьпіс, які, у першую чаргу, як асобны адбітак, фармату маленькай кніжачкі, павінен быць у кожнага паляўнічага, у кожнай школе, лясьніцтве і ў кожнага аматара прыроды.

Плякаты дзічыны як ахоўваемай, так і падлягаючай адстрэлу, павінны быць шырока распаўсюджаны па хатах-чытальнях, клюбах, канторах, ды прыхожых лясьніцтваў, с/саветаў, райвыканкомаў ды інш., асабліва сялянскіх установах.

Асобную ўвагу трэба зьвярнуць на школы, дзе пустуючыя і часта непабаленыя сьцены, павінны быць поўнасьцю ўкрыты малюнкамі прыгожай якасьці па ахове дзічыны. Школа, якая выхоўвае нашу моладзь, павінна стаць самым яскравым паказальнікам ахсвы дзічыны. Тут трэба ўтварыць гурткі аб ахове дзічыны і наогул падумаць аб утварэньні таварыстваў аховы прыроды.

Усе гэтыя пытаньні неабходна ўзгадніць з нашымі наркаматамі земляробства, асьветы ды юстыцыі ды атрымаць ад іх як грашовую, так маральную дапамогу.

Таксама трэба падумаць аб скліканьні канфэрэнцый па ахове дзічыны, каб узьняць ды ня толькі ўзьняць, а і паступова і грунтоўна падняць у гэтым напрамку грамадзкую думку.

**Т. Гаўрыловіч.**

# Письмо в редакцию.

*Тав. редактор.*

Мною получено от лесничего Плещеничского лесничества гр. И. И. Алисевича крайне важное сообщение о нескольких случаях гибели лосей в лесничестве от какого-то гастрического заболевания. Я полагал-бы необходимым опубликовать интересные наблюдения лесничего, письмо которого здесь прилагаю, и тем самым обратить внимание специалистов нашего ветеринарного института на существование, повидимому, какой-то эпидемической болезни у лосей. Быть может институт найдет возможным командировать на место специалистов для принятия мер и для ближайшего изучения вопроса. Необходимо поставить наблюдения и в заповеднике—нет-ли и там случаев падежа лосей от этой же болезни?

С товарищеским приветом

**А. Федюшин.**

15/IX—29 г.
г. Минск.

# Профессору Федюшину.

Вас интересует причина гибели лося, шкуру которого я доставил в музей. Причину я точно указать не могу, так как при с'емке шкуры на трупе лося никаких ран не обнаружено. Я предполагаю, что лось этот погиб от поноса, так как весь зад его и те места, где он лежал, были покрыты жидкими экскрементами, а, кроме того, в ноздрях были маленькие ранки, подобные тем, кои бывают в ноздрях больных поносом лошадей.

Шерсть лося была покрыта мертвыми оводами и слепнями. Лось погиб в июне и обнаружен был на четвертый день после гибели.

Что лоси болеют поносом в Плещеничском лесничестве об этом свидетельствует такой случай. 15 августа я охотился в Плещеничской даче по тетеревам. Моя собака облаяла какого-то крупного зверя. Когда я подошел к этому месту, то увидел крупного лося-быка. Лось был очень близко от меня, мотал рогами на собаку, но не убегал от нас. Бока его были еще не вылинявшими и свисали клочья шерсти. Рога еще окончательно не выросли и покрыты шерстью. Весь зад запачкан жидкими экскрементами. Глаза гноились. Увидеть, была ли рана не представлялось возможным. Лось стоял на одном месте минут пять, а потом медленно пошел. В этой даче я находил логова лосей и тоже запачканные экскрементами.

22 августа, ровно через неделю после этого случая, был найден уже сильно разложившийся и наполовину с'еденный волками труп лося. Удалось установить, что лось был самец. Рассмотреть его более детально я не мог, так как от него разносилось сильное зловоние. Все вышесказанное подтверждает мысль, что на лосей в Плещеничском лесничестве существует какая-то эпидемия.

**Алисевич.**

30/VIII—29 г.

Петров.

# СПИСОК ПТИЦ

## с указанием их весеннего появления в Куринском с.-с., Витебского округа.

| НАЗВАНИЕ ВИДА | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | Средний срок |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Бекас—Scolopax gallinago, Briss | — | — | — | — | 25/IV | — |
| Кулик черный — Totanus ochropus, L. | 5/IV | 15/IV | — | 23/IV | 25/IV | 17/IV |
| Чибис—Vanellus cristatus, Meyer | 2/IV | 6/IV | 25/III | 6/IV | 14/IV | 4/IV |
| Зуек малый — Charadrius minor, Meyer et Wolf | — | 21/IV | — | — | 28/IV | 24/IV |
| Журавль — Grus cinerea, Bechst | 11/IV | 18/IV | 6/IV | 20/IV | 27/IV | 16/IV |
| Клинтух—Columba oenas, Briss | — | 2/IV | 24/III | 6/IV | 15/IV | 4/IV |
| Утки—Anas | 26/III | 6/IV | — | — | 22/IV | 8/IV |
| Гуси—Anser | — | 15/IV | — | 29/IV | — | 22/IV |
| Аист белый—Ciconia alba, Briss | 3/IV | 16/IV | 10/IV | 22/IV | 23/IV | 15/IV |
| Цапля серая—Ardea cinerea Briss | 10/IV | 15/IV | 3/IV | — | — | 9/IV |
| Кукушка—Cuculus canorus, Linn | 24/IV | 22/IV | 1/V | 24/IV | 1/V | 26/IV |
| Вертеголовка -Fynx torquilla, Linn | 16/IV | 23/IV | 20/IV | 25/IV | 30/IV | 23/IV |
| Сизоворонка — Coracias garrula. Linn | — | 23/IV | — | — | 9/V | 1/V |
| Грач — Corvus frigileus, Linn | 24/III | 1/IV | 12/III | 31/III | 23/III | 24/III |
| Жаворонок полевой — Albauda arvensis, L. | 23/III | 1/V | 13/III | 28/III | 12/IV | 27/III |
| Жаворонок лесной — Alauda arborea, L. | — | — | 15/III | 1/IV | 13/IV | 1/IV |
| Скворец—Sturnus vulgaris, L. | 26/III | 1/IV | 12/III | 31/III | 25/III | 25/III |
| Подорожник снежный — Plectrophanes nivalis L. | — | — | — | 23/III | 19/III | 21/III |
| Зяблик—Fringilla coelebs L. | 2/IV | 1/IV | 22/III | 2/IV | 14/IV | 2/IV |
| Зеленушка—Chloris chloris, Briss. | — | 6/IV | 16/III | 1/IV | 29/III | 28/III |
| Ласточка городская — Chelidon urbica, L. | 7/V | — | — | 12/V | — | 9/V |
| Ласточка деревенская — Hirundo rustica, L. | 4/V | 24/IV | 1/V | 9/V | 5/V | 3/V |
| Мухоловка пеструшка — Muscicapa atricapilla L. | — | — | 28/IV | 25/IV | 30/IV | 25/IV |
| Жулан—Lanius collurio, L. | — | 1/V | — | 16/V | 12/V | 10/V |

| НАЗВАНИЕ ВИДА | 1925 г. | 1926 г. | 1927 г. | 1928 г. | 1929 г. | Средний срок |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Конек лесной — Anthus arboreus, Briss | 4/V | 6/IV | 7/IV | 3/IV | 15/IV | 8/IV |
| Трясогуска желтая — Motacilla flava, L. | — | 22/IV | 26/IV | 24/IV | 27/IV | 25/IV |
| Трясогуска белая — Motacilla alba, L. | 26/III | 6/IV | 3/IV | 4/IV | 14/IV | 4/IV |
| Пеночка желтобровка — Phyllos copus sibilatrix, Bechst | 26/IV | 30/IV | 6/V | 7/V | 6/V | 3/V |
| Пеночка весничка — Phullos copus trochilus, Linn | — | 24/IV | 27/IV | 28/IV | 3/V | 28/IV |
| Пеночка кузнечик—Phylloc copus collybita, Vicil. | 15/IV | 19/IV | 17/IV | 26/IV | 29/IV | 21/IV |
| Славка серая — Silvia c nerea, Bechst | 30/IV | 5/V | 9/V | 12/V | 10/V | 7/V |
| Соловей — Erithacus philomela, Bechst. | 5/V | 6/V | 5/V | 11/V | 8/V | 7/V |
| Зорянка — Erithacus rubecula, Linn | 10/IV | 15/IV | 12/IV | 5/IV | 25/IV | 13/IV |
| Чекан каменка—Saxicola oenanthe, L. | 13/IV | 20/IV | 20/IV | — | 30/IV | 21/IV |
| Чекан луговой—Pratincola rubetra, L. | — | 25/IV | 2/V | 25/IV | 1/V | 28/IV |
| Иволга — Oriolus galbula, L. | 9/V | 13/V | 17/V | 11/V | 11/V | 12/V |
| Коноплянка — Acanthis cannabina, L. | 23/III | 1/IV | 13/III | 28/III | 10/IV | 27/III |
| Крапивник — Troglodytes parvulus, L | 10/IV | 15/IV | 15/IV | 5/IV | — | 11/IV |
| Славка завирушка—Sulvia curruca, L. | — | — | 1/V | 13/V | 6/V | 7/V |
| Певчий дрозд Turdus musicus, L. | — | 6/IV | 4/IV | 6/IV | 25/IV | 10/IV |

П. Савіцкі.

# Нагляданьні за прыродай.

(*Дасавіцкі с.-с., Магілеўскага раёну*).

*Качкі*—З 10-VIII па 1-IX лётаюць на жыр на зжатае поле ды на балотцы паміж поля.

*Бекасы* з 1 па 25 жніўня вывадкі разьбіліся па аднаму. Сядзяць у траве каля вады.

*Цецярукі*—з 3 па 28 жніўня амаль усе вывадкі перайшлі на брусьні нікі. Сустракаюцца і на ягадніках дурніц. Маладыя чарнеюць

*Перапёлкі*—з 1 па 15 жніўня ў ярыне. Скончылі бой.

*Рабцы*—з 10 па 22 жніўня вывадкі выходзілі з балот і ельнікаў на брусьнічнікі.

# ЗАМЕЖНЫ АГЛЯД.

## Пушны рынак.

### П. А. Злуч. Штаты.

**Бастон**. Позьняя ды студзёная вясна затрымала попыт на гаржэткі, якія робяцца галоўным чынам зараз з лісіцы. Багаты спажывец патрабуе, галоўным чынам, плямістую лісіцу; у большжа танных вырабах ідзе чырвоная ды цынамонавая. Зроблена спроба рабіць гаржэткі з плямістага ваўка для беднага спажыўца.

Гладкія мяхі ня цікавяць пакупцоў.

**Сан-Францыска.** Вялікі попыт на гаржэткі з лісіцы. Высокія цэны на гэты тавар могуць, аднак, кепска адбіцца на апэрацыях з імі.

**Портланд**. Вельмі ў ходу каракуль ды гарнастай для аддзелкі паліто. Модны камбінацыі тонаў чорнага з белым ды чорнага з шэрым.

Па даным Гудзон Бей К-о гаржэткі з адной скуркі лісіцы чырвонай, беж ды кавы—ішлі па цане 115 доляраў (прыблізна 230 руб.) у сярэднім.

**С.-Луі**. Добры попыт на гаржэткі з лісіцы чорнабурай, плямістай ды бэж. Опэрацыі з імі ўсё-ж ня так інтэнсыўны, як чакалі. Некаторыя фірмы для лепшай рэалізацыі мехавых паліто дужа панізілі цэны на гэты тавар.

**Луізіана.** Кіраўніцтва па запуску паляўнічых угодзьдзяў апублікавала даныя аб выніках паляўнічага сэзону ў 1928-29 г. Загатоўка пушсыр'я ў гэтым годзе вызначалася—5.206.141 скурка на 7.472.733 доляры. (Доляр каля 2 руб.). Загатоўка адной андатры склала 4.476.934 скуркі. Наогул загатоўкі 1928-29 г. паказалі, што праведзеныя ў Луізіане мерапрыемствы па ахове зьвера поўнасьцю апраўдалі сябе, дзякуючы чаму вастанавілася нармальная колькасьць зьвера ў гэтым штаце.

У леташні сэзон загатоўлена вялікая колькасьць енота, апосума; загатоўка скунса перавышае нармальную; сэзон для норкі ды выдры больш удачлівы, чым сэзон 1916 па 1920 год.

### Канада.

**Віньніпег**. Па даных пушных фірм у попыце переважна лісіца дзеля гаржэтак як чырвоная, так і афарбованая, а таксама эўропэйская лісіца, даступная па цане. Наглядаецца патрабаваньне на Гудзон-Бейскага собаля ды куніцу для гаржэтак. Добры попыт на гладкага каракуля.

**Эдмонтон.** Паляўнічы сэзон 28-29 году прайшоў мала пасьпяхова ў Заходняй Канадзе. На працягу 2—3 год назіралася скарачэньне колькасьці зьвера, а загатоўка будзе мусіць ящчэ ніжэй гэтых год. Ёсьць весткі аб вялікай колькасьці там трусоў, што дазваляе лічыць аб вастанаўленьні нармальнае колькасьці пушніны ў далейшым.

Цэны ў Эдмонце паніжаны на гарнастая, куніцу, андатру, крыжавіка, рысь ды норку. Устойчывыя цэны на чырвоную лісіцу, белы песец, бурую лісіцу. Вялікі попыт на барсука ды ільку.

### Аляска.

**Сітль**. Вялікі попыт на гаржэткі, у сувязі з чым увосень чакаецца вялікае павышэньне цаны на лісіцу. На рынак паступілі з Кітая ды Дальнага Ўсходу вялікія партыі пушніны з сурка, муфлона, ласкі, хорка, вавёркі, казьліны ды сабакі.

### Англія.

**Лёндан**. Вялікі попыт на норку высокае якасьці. Большая частка яе, што было на рынку, закуплена Амэрыкай. Белы песец выклікаў канкурэнцыю, бо яго было мала. Добра ішлі воўк ды рысь з невялікім павышэньнем. На выдру вялікі попыт з боку Эўропы. Чырвоная лісіца павысілася ў цане супроць мінулых аўкцыёнаў. Чорнабурая лісіца панізілася ў цане на 20%.

### Германія.

**Лейпцыг.** На рынку вялікі попыт на жарабка. Гэта зараз найбольш ходкі тавар ва ўсёй Эўропе. Амэрыка ахвотна купляе чорнага і белага тхара, ніжэйшыя гатункі ідуць у Лёндан. Добры попыт на гарнастая ды чырвоную лісіцу. Расьце попыт на белага песца. Вавёрка сібірская ідзе добра, эўропэйская наадварот і можа быць куплена дзёшава.

---

**М. Зубаровский.**

## Охотничьи общества в Германии.

В настоящее время охотничьих обществ во всей Германии насчитывается 423 (об'единяющих 53.000 членов), кинологических обществ 236 (с 19 тыс. членов), 101 общество по охране природы и дичи (8000 членов), 47 обществ любителей стрелкового спорта (4.700 членов), 19 обществ по отдельным специальным вопросам охотничьего дела (например: любителей облавных охот, любителей норовых охот и т. д.).

Охотничьи общества основаны на принципе добровольного членства и коммерческой деятельностью не занимаются.

К главнейшим функциям их деятельности относятся: аренда охотугодий, приобретение дичи, сохранение и разведение ее в угодьях, охрана и надзор за угодьями, организация образцовых охотничьих хозяйств.

Охотничьи угодья арендуются охотоб'единениями (или отдельными лицами) у землевладельцев.

Стоимость аренды определяется как по количеству дичи, так и по видовому ее составу и размерам площади. Арендные платежи поступают целиком в пользу владельцев угодий, а последние от своей доходности уплачивают государству известный процент. Разведение дичи в Германии в последние годы очень развито. К концу зимы ежегодно устраиваются так называемые „Ярмарки дичи", которые делают крупные обороты. Обычно охрана угодий находится в руках десничеств и опытных сторожей. Ежедневно делаются обходы охотугодий верхом или на велосипедах, в зависимости от времени года и рельефа местности. Лесные посты соединены между собою нередко телефоном. За поимку браконьеров выдаются крупные премии как владельцами охотугодий, так и охотничьими обществами.

Помимо этого браконьеры несут строгую ответственность перед законом. Браконьерство карается строго: так, например, за убийство косули в период запрета охоты на нее и не на заарендованном участке грозит тюрьма до полутора года и помимо этого крупный денежный штраф в возмещение убытков причиненных охотхозяйству.

Несмотря на то, что с браконьерством и нарушителями правил и законов охоты в Германии ведется энергичная борьба, что можно видеть и из приведенного примера, несмотря на то, что нарушители караются чрезвычайно строго, все-же браконьеры в течение года делают оборот охотничьей продукции на 1.500.000 марок (т.-е. на 690.000 рублей).

Самые распространенные способы борьбы с хищниками—безшумные. Разного рода капканы, ловушки, западни. Для изготовления их в Германии существует несколько специальных фабрик. В прежнее время государство, организуя борьбу с хищниками, выдавало премии. В настоящее время премии не выдаются. Охотничьи товарищества иногда выдают такие премии, но и то в чрезвычайно в незначительном размере и как правило выдача премий не существует. Казна ни в какой мере не финансирует и не субсидирует охотничьи об'единения. Сроки и правила охоты устанавливаются в зависимости от местных условий.

---

**Паляўнічы! вучыся правідлова здымаць скуркі, бо сапсаваная скурка трациць 50 проц. цаны.**

# В ПОМОЩЬ ОХОТНИКУ.

## Охота на зайцев.

В СССР водятся два вида зайцев: заяц-беляк и заяц-русак. Видовые отличия беляка и русака как в летней, так и, в особенности, в зимней шкурке настолько ярки, а заяц вообще является столь популярным зверьком, что останавливаться на описании внешнего вида зайцев совершенно нет никакой надобности. Следует, впрочем, указать, что нормальный вес взрослого беляка колеблется между $3^1/_4$—$3^1/_2$ килогр., а русака—между 4 и 5 килогр. зайцы большего веса попадаются гораздо реже, достигая иногда: беляки до 5 килогр. русаки до 7 и даже более килогр.

Заяц-беляк отличается от своего более крупного сородича—русака не только одним внешним видом и величиной, но и образом жизни и характером местности, где он преимущественно держится. Грубо говоря, можно сказать, что беляк является преимущественно жителем лесов, а русак, напротив, полей. В силу этого в более северных местностях главным образом встречается беляк, а русак встречаетя далеко не везде и в несравненно меньшем количестве.

Еще дальше к северу—русак пропадает совершенно и здесь встречается только один беляк, напротив, чем больше к югу, чем больше полей и чем меньше лесов, тем реже можно встретить беляка и тем чаще и в больших количествах попадается русак. Наконец в степной полосе беляк исчезает совершенно и здесь встречается тольки один русак. Таким образом можно сказать, что беляк характерен для севера, для лесной полосы, а русак для юга, для степей. В средней же полосе, где наряду с лесами огромные площади земли заняты полями, одновременно встречаются и беляк и русак, однако и тут русак остается преимущественным жителем полей, а беляк придерживается лесов.

Приемы охоты на русаков и беляков несколько отличны друг от друга, что зависит как от разницы в повадках этих зверьков, так и от разнохарактерности тех угодий, где держатся зайцы и где, следовательно, производится на них охота. Тем не менее в приемах и способах охоты на беляков и русаков есть много общего. Это позволяет в дальнейшем говорить об охоте на зайцев вообще, лишь попутно указывая на особенности охоты по русакам и по белякам. Следует оговориться, что в дальнейшем в этой статье будет идти речь только о приемах и способах ружейной охоты. Описание же способов добывания зайцев с борзыми собаками и с ловчими птицами, равно как и всевозможными законом запрещенными ловушками, петлями, капканами и т. д. будут опущены вовсе.

### Охота с гончими.

Охоту на зайцев с гончими лучше всего начинать в ту пору, когда все полевые работы уже закончатся, заметно пожелтеет и начнет облетать с деревьев лист. К этому времени молодые зайчата последних пометов обычно почти достигают размера и веса стариков, а возможность убить на охоте из-под гончих беременную зайчиху (что так нередко случается, когда охота начинается в более раннюю пору) исключается совершенно. Помимо этого следует иметь в виду, что ранней осенью гончим приходится работать в несравненно более тяжелых трудных условиях, чем в более позднюю пору. Высокая, еще не полегшая трава, одетые листьями ветви кустарников и лиственного молодняка скрывают зайца от взоров охотника. Да и заяц в эту пору, в особенности молодой, идет под гоном далеко не так, как в разгар осени: часто западает, неохотно покидает лесные острова, кружится не широко по одним и тем же местам, упорно придерживаясь чащи и т. д. Кроме того, теплая погода решительно сказывается как на работе, так и, в особенности, на выносливости гончих.

Несомненно лучшая пора для охоты по зайцам с гончими начинается тогда, когда с деревьев облетить весь лист, поблекнет и пригнется к земле трава и в лесу станет как-то светлее и просторнее.

Заяц, как известно, животное преимущественно ночное. Поэтому вся жизнь зайца за редкими исключениями (главным образом в период течки) проходит ночью. С рассветом же заяц обычно заканчивает жировку и залегает на отдых в каком-либо укромном местечке, чтобы покинуть его с наступлением сумерок.

В силу этого выходить на охоту с гончими по зайцам всегда следует как можно раньше, чтобы быть на месте охоты уже с первыми проблесками дня. Такой ранний выход на охоту обеспечивает возможность собакам гораздо скорее разыскать зайца, перехватывая его, еще совсем свежий след, с жировки. Лишь в дни с сильными утренниками лучше выходить на охоту немного позднее, дать возможность земле несколько отойти от заморозка.

Зайцы очень чутко относятся ко всяким изменениям погоды. Поэтому, в зависимости от ее состояния, следует искать зайцев в различных местах. Если осень стоит сырая и влаги достаточно повсеместно, то беляка чаще всего можно встретить в более сухих, возвышенных местах. Напротив, если стоит сухая погода, то беляки перемещаются преимущественно к речкам, ручьям, в окраины болот и т. п. места. В сильный дождь, а равно и в сильный ветер (в особенности, когда лист еще только начал опадать) не следует посылать гончих по белякам в лиственный лес. Боясь шума срываемых ветром и падающих листьев или шума падения дождевых капель беляк перебирается в частый ельник, заросли можжевельника и т. п. места, а нередко также в поля и смежные с ними кустарники. Здесь зайцу гораздо спокойнее, чем в лиственном лесу и тут он лежит чрезвычайно крепко. В упорно дождливую погоду, беляк иногда вовсе покидает лиственный лес, где главным образом живет в продолжение всей осени, и перебирается в лес смешанный или даже хвойный. С выпадением снега и наступлением холодов беляки перебираются в крупный смешанный лес и держатся здесь преимущественно по опушкам в ивняковых и осиновых зарослях, вблизи лесных дорог (в особенности тех, по которым возят сено) и т. п. мест.

Русак в хорошую погоду осенью держится большей частью вблизи полей по жнивам и озимям, залегая на день или в межах, или в прилегающих к полям кустарниках. По мере наступления холодов и выпадения снега, русак все более и более приближается к жилью, жируя преимущественно на озимях, огородах, в садах, около гумен и проч. и залегая на день где-нибудь от них поблизости. В погоду ветренную, холодную и снежную русак избегает ложиться на чистых местах, придерживаясь главным образом опушек леса, оврагов и иных защищенных от снега и ветра мест. Именно в такую погоду нередко можно взбудить русака на лежке в непосредственной близости к жилью: у сарая, под овином, у деревенских бань и т. д.

Самая лучшая погода для охоты с гончими по зайцам—безветренная, пасмурная, прохладная, но без заморозков, и чтобы под ногой было мягко и влажно. По сырой земле гончие работают обычно лучше всего. Не плох бывает гон и в оттепель, по тающему снегу, если, конечно, последний не очень глубок. Мелкий осенний дождик нисколько не мешает успешности работы гончих и охоте. Напротив, сильный дождь делает успех охоты весьма сомнительным и в такую погоду, пожалуй, лучше всего посидеть дома, а не мотать и себя и собак совершенно напрасно. Точно также неблагоприятствует охоте с гончими по зайцам и сильный ветер, в особенности в листопад. Зайцы в такую погоду ходят под гончим очень неправильно, часто далеко уводят собок по прямому направлению от охотника, да и звуки гона из за ветра очень трудно расслышать. Охотясь в такую пору следует всегда, по возможности, устраиваться так, чтобы гончие все время находились бы от охотника против ветра. Нужно иметь в виду, что в сильный ветер зайцы (в особенности русаки) держатся преимущественно в подветренной стороне леса, как более защищенной от его порывов.

Сильный мороз по черной тропе, т. е. так назыв. гололедица,—несомненно самая неблагоприятная погода для охоты на зайцев из-под гончих, в особенности, если перед морозом шли большие дожди и в лесу много скованных льдом лужиц воды. В этом случае гончие очень скоро так изрежут о ломающийся под ними лед свои лапы, что вовсе откажутся работать и выйдут не на один день из строя.

Глубокий рыхлый снег, по которому собакам приходится скорее плыть, чем идти, в то время, как более легкий и приспособленный для передвижения по такого рода рыхлым массам, заяц идет верхом—тоже неблагоприятствует охоте. Заяц этом случае идет далеко впереди собак, петляет, западает в стороне, делает двойки и т. д., а собаки—быстро теряют силы.

Еще хуже глубокий снег, сверху покрытый тонкой, но плотной коркой—настом. В такую пору выходить на охоту с гончими вовсе не следует, так как удачи все равно не добиться, а между тем почти неизбежно сильное поранение, а то и вовсе искалечение ног собак об острую, словно стекло, корку наста. Не следует также забывать и про ту опасность, которой подвергаются собаки на охоте по черной или белой тропе в местностях, богатых речками и озерками. В такой местности в ту пору года, когда мороз скует речки и озерки тонким слоем льда, выдерживающим зайца, но не выдерживающим веса собак, хитрый косой очень любит, уходя от гончих, перебегать по

